# ДОБРЫ ВЕЧАР

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995
СТУДЗЕНЬ
10
АЎТОРАК
№ 6/ 934
Цана 60 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

### СЛЕДСТВА ВАКОЛ «БЕЛЫХ ПЛЯМ» ПРАЦЯГВАЕЦЦА...

Генеральная пракуратура Беларусі завяршыла праверку па факту забароны публікацыі ў шэрагу рэспубліканскіх выданняў даклада дэпутата Вярхоўнага Савета Сяргея Антончыка аб карупцыі ў Адміністрацыі Прэзідэнта.

Як стала вядома, за час праверкі Генеральная пракуратура азнаёмілася з дзейнасцю цэнтральных газет, якія выходзілі з «белымі плямамі», дзяржаўнага выдавецтва «Беларускі Дом друку» і адпаведных структур Адміністрацыі Прэзідэнта.

Матэрыялы праверкі накіраваны Генеральнаму пракурору Беларусі Васілю Шаладонаву.

Юрась ДУБІНА.

### ЗАЯВА САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ

Кіраўніцтва Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай грамады выступіла з заявай з нагоды адмаўлення Беларускага Дома друку выдаваць «Белорусскую деловую газету», «Газету Андрея Климова», «Свабоду» і «Фемиду».

«Прэзідэнт і яго каманда працягваюць беспрэцэдэнтны наступ на прэсу, — гаворыцца ў заяве. — ...Прэзідэнт баіцца праўды аб карупцыі ў яго акружэнні. Ён гатовы закрыць рот кожнаму, хто крытыкуе некампетэнтнасць і дылетанцтва яго каманды».

На думку аўтараў заявы, дзеянні Прэзідэнта вельмі небяспечныя, бо сваімі акцыямі ён павялічвае палітычную напружанасць у краіне.

БСДГ выказаў сваю салідарнасць з незалежнымі органамі друку, а таксама падкрэсліў, што, згодна са сваёй праграмай, будзе настойваць на дэманапалізацыі паліграфічнай вытворчасці ў краіне, у тым ліку і на «пераўтварэнні» Беларускага Дома друку ў незалежнае ад урада прадпрыемства.

Юрый АЛЯКСЕЕЎ.

### ДЕПУТАТЫ, НЕ ЗАБУДЬТЕ ПРО ЧЕРНОБЫЛЬ!

На заседании правления Белорусской ассоциации чернобыльских организаций «26 апреля» было принято решение об участии ассоциации в предвыборной кампании.

Программа кандидата от ассоциации наряду с экономической частью обязательно будет включать в себя систему мер по решению чернобыльских вопросов. Как заявил ее председатель Михаил Образов, будущий кандидат будет непосредственно представлять в парламенте интересы пострадавших от чернобыльской аварии людей: «Беларусь — наиболее пострадавшая от аварии страна, и ставить, в частности, вопрос об уменьшении льгот для «чернобыльцев» аморально и преступно».

Наталья ГУСАКОВА.

### ИНСТИТУТУ ФИЗИКИ — 40 ЛЕТ

17 января 1995 года исполняется 40 лет Институту физики имени Степанова Академии наук Беларуси.

Но, несмотря на юбилей, институт переживает далеко не праздничные времена. Его деятельность проходит в условиях нехватки средств на исследования. Поступления из бюджета покрывают лишь 40% минимальных потребностей. И все же Институт физики по-прежнему представляет собой крупный научный центр, где ведутся фундаментальные и прикладные исследования по физике.

Мария НОВИЧКОВА.

### СТАРТУЕТ «МЕТЕЛИЦА-95»

В первые выходные февраля в Минске состоится авторалли «Метелица-95».

Ралли открытое: участвовать в нем могут все желающие на личных автомобилях. Длина трассы — 150 километров. Стартовать участники будут в Минске, а закончат гонку в Раубичах. В программу соревнований войдут элементы скоростного маневрирования: слалом, фигурное вождение, спринт и т.п.

Победителей ждут призы.

Наталья ГУСАКОВА.

### «ЗЯЛЁНЫ ЛУГ» — СУТКІ БЕЗ ВАДЫ

У канцы выхаднога дня жыхары мікрараёнаў «Зялёны Луг-6 і 7» засталіся без вады: недзе прарвала трубу. Увесь панядзелак спецыялісты ВА «Мінскводаканал» па чарзе перакрывалі ўчасткі водаправода, шукалі месца прарыву. Толькі вечарам месца аварыі было выяўлена і пачаліся работы па яе ліквідацыі.

Як запэўніў галоўны інжынер ВА «Мінскводаканал» Мікалай Крук, вечарам у панядзелак у кватэрах на ўсіх паверхах вада з'явіцца абавязкова. За выключэннем трох дамоў (№№ 49, 51, 53 па вул. Мірашнічэнка), у якія вадуададуць толькі сёння. Дарэчы, для жыхароў, якія засталіся без вады, наладжаны падвоз пітной вады ў цыстэрнах.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 10 января 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США покупка | Доллар США продажа | Немецкая марка покупка | Немецкая марка продажа | Российский рубль покупка | Российский рубль продажа |
|---|---|---|---|---|---|---|
| КОМПЛЕКС | 10835* | 11200 | 6895* | 7186 | 2.48 | 2.82 |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 10950* | 11250 | 7035* | 7230 | 2.4 | 2.8 |
| БЕЛАРУСБАНК | 11550 11650** | 12120* | 7218 7281** | --- | 2.71* | 3.03* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11200* | 11500* | 7000* | 7400* | 2.6 | 3 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11050* | 11450 | 7050* | 7350 | 2.56 | 2.82 |
| ПРОФБАНК | 11250 | 11700 | 6950 | 7250 | 2.7 | 3 |
| СБЕРБАНК | 11100 | 11500 | 7000 | 7300 | 2.65 | 2.8 |
| ОЛИМП | 11200 11256** | 11600 11658** | 7088 7123** | 7388 7425** | 2.73 3** | 2.84 2.95** |
| ДУКАТ | 11250* | 11700 | 7200* | 7500 | 2.4 | 3 |
| финансовая компания СОЛИД | 10900 | 11350 | 6950 | 7350 | 2.6 | 2.75 |
| МИЛАВИЦА филиал АКБ ДУКАТ | 11250 | 11600 | 6950 | 7450 | 2.3 | 2.8 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | 11100 | 11600 | 6700 | 7200 | --- | --- |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор.дир.) | 11200 | 11500 | 7100 | 7300 | 2.65 | 2.9 |
| ВЕЛЕС филиал АКБ ДУКАТ | 11250 | 11400 | 7150 | 7300 | 2.6 | 2.95 |
| ПОИСК | 11400 | 11700 | 6950 | 7270 | 2.4 | 2.9 |
| Филиал N 1 банка "ОЛИМП" | 11100* | 11400 | 6800* | 7200 | --- | --- |
| ЕВРОПЕЙСКИЙ | 11100 11600** | 11600 11750** | 7150 7450** | 7500 7580** | 2.7 2.8** | 2.85 3** |
| ТРАНЗИТНЫЙ | 11000 11525** | 11450 12000** | 6700 7350** | 7300 7800** | 2.45 | 2.8 |
| БЕЛБАЛТИЯ | 11150 | 11750 | 7000 | 7350 | 2.7 | 2.9 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 11000 | 11400 | 6900 | 7300 | 2.3 | 3 |
| МАГНАТБАНК, ф-л 001 | 10950* | 11350* | 6800* | 7050* | 2.65 | 2.9* |
| ГУБИСС-РЕСУРС (за рос.руб.) | 10800 | 11400 | 6600 | 7260 | 2.4 | 2.9 |
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б/н расчетов) | 11130.00 | | 7152.96 | | 2.95 | |

* -- возможна операция за наличный и безналичный расчет

В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".

### КОРАТКА

**Як стала вядома карэспандэнту БЕЛІНФАРМа, міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько 8 студзеня вылецеў у Брусель для падпісання натаўскай праграмы «Партнёрства дзеля міру».**

**Нагадаем, што Рэспубліка Беларусь — адна з апошніх дзяржаў у Еўропе, якія вырашылі далучыцца да гэтай праграмы.**

* * *

*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Малдова ў Беларусі Іон Лешану ўручыў даверныя лісты прэзідэнту нашай рэспублікі Аляксандру Лукашэнку.*

*У ходзе абмену прамовамі прадстаўнікі дзвюх дзяржаў выказаліся за пашырэнне двухбаковых сувязей паміж Беларуссю і Малдовай.*

*Як вядома, дагэтуль Малдову ў Мінску прадстаўляў Часовы Паверані ў справах гэтай рэспублікі.*

* * *

**Прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі акадэмік Леанід Сушчэня абраны замежным членам Літоўскай Акадэміі навук. Л.Сушчэня з'яўляецца таксама сапраўдным членам Расійскай Акадэміі навук і ганаровым членам Польскай Акадэміі навук.**

* * *

*Міністр аховы здароўя Беларусі Інеса Драбышэўская павіншавала жыхароў Браслава з адкрыццём новага комплексу цэнтральнай раённай бальніцы.*

*У якасці навагодняга падарунка браслаўскія медыкі атрымалі ад Міністэрства аховы здароўя сучасны эндаскапічны апарат коштам 2000 нямецкіх марак.*

* * *

**13 января в столичном Доме литератора состоится вечер «Свята новых кніжак», для участия в котором приглашены детские художественные коллективы и белорусские детские писатели. Десять авторов, чьи книги для детей были изданы в прошедшем году, встретятся со своими маленькими читателями, расскажут о своих творческих планах.**

Управление юстиции Мингорисполкома сообщает, что в соответствии с принятием Закона Республики Беларусь «Об общественных объединениях» все ранее зарегистрированные общественные объединения на территории г.Минска обязаны пройти перерегистрацию до 1 апреля 1995 г. по адресу: **г.Минск, ул.Д.Марцинкевича, 1, комната № 1.**

### СУД НЕ АДБЫЎСЯ

Савецкі раённы суд Мінска планаваў разгледзець грамадзянскі іск былога міністра абароны Паўла Казлоўскага да Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, а таксама да Інфармацыйнага агенцтва БелаПАН, рэспубліканскіх газет «Звязда» і «Народная газета». Менавіта гэтыя сродкі масавай інфармацыі распаўсюдзілі ў красавіку мінулага года інфармацыю тагачаснага кандыдата ў Прэзідэнты з абвінавачваннямі Паўла Казлоўскага ў карупцыі.

Аднак разгляд «справы Казлоўскага», якая «выплыла» на свет 11 красавіка 1994 года, у чарговы раз адкладзены на няпэўны час: на суд не з'явіўся адказчык — ні сам Прэзідэнт, ні яго прадстаўнік. Савецкі нарсуд не прадставіў прадстаўніку Прэзідэнта судовых матэрыялаў для азнаямлення.

Юрась ДУБІНА.

### ДА 50-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ

### ПАМЯЦЬ АСВЕНЦІМА

Як паведаміла Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі, 27 студзеня гэтага года ў Асвенціме-Бжэзніцы адбудуцца ўрачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя 50-годдзю вызвалення былога гітлераўскага лагера смерці. Яны пройдуць пад патранатам Прэзідэнта Польшчы Леха Валенсы. На святкаванне ў Асвенцім запрошаны лаўрэаты Нобелеўскай прэміі міру, кіраўнікі дзяржаў, народы якіх былі вязнямі канцэнтрацыйных лагераў Аушвіц-Біркенаў.

Усіх былых вязняў, хто пажадае прыняць удзел ва ўрачыстасцях, пасольства просіць звяртацца да кіраўніка арганізацыйнага бюро прафесара Багдана Рымашэўскага па адрасу 00-071, г.Варшава, Кракаўскае прадмесце, 15/17, Міністэрства культуры і мастацтва. **Тэлефон і тэлефакс — 26-88-30.**

ДЗЯРЖАЎНЫ АЛІМП

## ДЗЕВЯЦЬ ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ «ВЕРТЫКАЛЬНАГА ЎЗЛЁТУ» РАЗВІТАЛІСЯ СА СВАІМІ МАНДАТАМІ

Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, «ДВ».

У загалоўку гаворка ідзе пра тых парламентарыяў, якія склалі свае паўнамоцтвы ў сувязі з тым, што атрымалі пасады ў вядомай прэзідэнцкай «вертыкалі».

9 студзеня Вярхоўны Савет прагаласаваў за вызваленне ад дэпутацкіх паўнамоцтваў адразу аж дзевяці чалавек — Васіля Чэпіка, Зянона Ломаця, Уладзіміра Дражына, Аляксандра Якабсона і іншых. Абмеркаванне гэтай навіны ў кулуарах сесіі, здаецца, стала для многіх парламентарыяў тэмай нумар адзін і адсунула на другі план шэраг іншых актуальных пытанняў дня. Можа, таму і ўвесь гэты дзень прайшоў у Авальнай зале даволі спакойна, без эмацыянальных усплёскаў і вострых калізій. Хоць журналісты, якіх на гэты раз было тут надзвычай багата, відаць, спадзяваліся на крыху іншы паварот падзей. У прыватнасці, на тое, што атрымаюць рэзананс апошнія драматычныя падзеі, звязаныя «з высвятленнем адносін» паміж уладай і сродкамі масавай інфармацыі.

І сапраўды, дэпутат Генадзь Карпенка двойчы настойваў, каб парламент выканаў сваё рашэнне ад 23 снежня мінулага года і заслухаў Прэзідэнта аб прынятых мерах па фактах забароны публікацыі ў рэспубліканскіх выданнях даклада Сяргея Антончыка. Яго падтрымалі дэпутаты Сяргей Навумчык і Алег Трусаў. Апошні, у прыватнасці, катэгарычна зазначыў, што Прэзідэнт і яго каманда працягваюць беспрэцэдэнтны наступ на прэсу, чым нагнятаюць палітычную напружанасць у краіне. Ад імя Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай грамады А.Трусаў выказаў рашучы пратэст супраць такіх дзеянняў.

Але большасць парламентарыяў не падзялілі іх трывогі. І таму пытанне не было ўключана ў павестку дня 16-й сесіі. Праўда, спікер парламента Мечыслаў Грыб прапанаваў Генадзю Карпенку падаць з гэтай нагоды пісьмовую заяву. І тады, маўляў, няхай парламентарыі вырашаюць, будзе трымаць справаздачу Прэзідэнт альбо не.

Затое была зроблена спроба ў першы дзень працы падступіцца да абмеркавання законапраекта «Аб дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1995 год». На трыбуну падняўся кіраўнік урада Міхаіл Чыгір. Але як не настойваў ён, каб бюджэт быў абавязкова разгледжаны і прыняты, дэпутаты не пагадзіліся з ім. Агульны настрой залы выказаў зноў-такі Генадзь Карпенка: ці варта так спяшацца? Бюджэт патрабуе грунтоўнага вывучэння і аналізу. І нельга вырашаць яго лёс такімі вось кавалерыйскімі наскокамі. Генадзь Дзмітрыевіч прапанаваў парламентарыям спыніць разгляд гэтага пытання, вывучыць матэрыялы, раздадзеныя планава-бюджэтнай камісіяй парламента, і вярнуцца да разгляду бюджэту праз два дні, у сераду.

Дэпутаты падтрымалі такі падыход і адразу прыступілі да абмеркавання планавых пытанняў, вынесеных на павестку дня сесіі. Дарэчы, нагадаем, сярод іх такія важныя праекты законаў, як «Аб Кабінеце міністраў РБ», «Аб Прэзідэнце РБ», «Аб альтэрнатыўнай службе», «Аб судовым ладзе і статусе суддзяў у РБ», «Аб дзяржаўных узнагародах» і іншыя.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ЗА ВОПЫТАМ — У АНГЛІЮ

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

Пасол Злучанага Каралеўства Вялікабрытанія Джон Эверард наведаў Саюз прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь. Ад імя ўрада Вялікабрытаніі ён запрасіў прэзідэнта гэтага саюза спадара У.Карагіна наведаць краіну. Запрашэнне было з удзячнасцю прынята.

У размове, што адбылася, пасол пацікавіўся праграмамі, якія ажыццяўляе Саюз прадпрымальнікаў, выніковасцю беларуска-брытанскага супрацоўніцтва дзелавых колаў.

Як паведаміў сп. Карагін, праграма візіту ў Вялікабрытанію дэлегацыі беларускіх прадпрымальнікаў пакуль распрацоўваецца. Нашы дзелавыя людзі хочуць азнаёміць патэнцыяльных англійскіх інвестараў са сваімі праектамі, прапановамі дзелавога супрацоўніцтва. І, у сваю чаргу, пазнаёміцца з вопытам дзяржаўнай падтрымкі і стымулявання ў Англіі малога і сярэдняга бізнесу, дзейнасцю карпаратыўных аб'яднанняў прадпрымальнікаў гэтай краіны.

У ходзе візіту таксама адбудуцца сустрэчы з уплывовымі банкаўскімі і парламенцкімі коламі Вялікабрытаніі.

ДОБРЫЯ СПРАВЫ

## «НАШЫ СЭРЦЫ — ХВОРЫМ ДЗЕЦЯМ»

Пад такім дэвізам Беларускі дзіцячы фонд праводзіць акцыю, у якой у перадкалядны дзень, 6 студзеня, прыняў удзел Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Ён прывёз падарункі хлопчыкам і дзяўчынкам у другую дзіцячую клінічную гарадскую бальніцу Мінска.

Звыш сарака гадоў таму адкрылася гэта лячэбная ўстанова ў былым спальным корпусе школы-інтэрната па вуліцы Тарханава. Амаль сто тысяч дзяцей замацаваны за ёй на шпіталізацыю. Кансультацыі і лячэбную дапамогу аказваюць медыкі і цяжкахворым дзецям з Магілёўскай і Брэсцкай абласцей. Акрамя таго, бальніца з'яўляецца клінічнай базай першай кафедры дзіцячых хвароб Мінскага медінстытута і медыцынскага вучылішча павышэння кваліфікацыі. Дзяцей усёй рэспублікі лечаць тут пры захворваннях нырак, неўрозах. У постчарнобыльскі час і без таго цесныя палаты, працэдурныя і лячэбныя кабінеты выкарыстоўваюцца яшчэ больш інтэнсіўна, таму што павялічылася колькасць захворванняў у дзяцей страўнікава-кішачнага тракту і дыхальных шляхоў, а цяжкае эканамічнае становішча і сацыяльныя стрэсы прывялі да павелічэння колькасці дзіцячых неўрозаў, у пітушчых бацькоў усё больш нараджаецца разумова адсталых дзяцей.

З такой немалой лячэбнай і навуковай нагрузкай калектыў пад кіраўніцтвам галоўнага ўрача Ліны Краўчанкі спраўляецца. Больш таго, у бальніцы — атмасфера і паветра хутчэй дзіцячага садка, чым лячэбнай установы. Але якімі невераґоднымі намаганнямі падтрымліваецца ўтульнасць у палатах і холах, як цяжка ўтрымліваць у чысціні цесныя калідоры, рамантаваць старыя сцены і дах. Яшчэ пяць гадоў таму быў распрацаваны праект будаўніцтва новага будынка бальніцы па праспекту Дзяржынскага. Макет яго да гэтага часу ўпрыгожвае кабінет галоўнага ўрача, справа ж застапарылася.

Аб гэтай галоўнай праблеме і гаварыў Прэзідэнт з калектывам медыкаў, выкладчыкаў і студэнтаў пасля наведвання палат, сустрэч з дзецьмі і іх бацькамі. На думку Аляксандра Лукашэнкі, лягчэй знайсці ў сталіцы прыдатны для патрэб бальніцы будынак, чым звязвацца сёння з будаўніцтвам новага. Ён гатоў нават ахвяраваць урадавай паліклінікай, бо, паводле перакanання Прэзідэнта, здароўе дзяцей — гэта здароўе ўсёй нацыі.

Як вырашыцца гэта праблема, пакажа самы бліжэйшы час: міністр аховы здароўя Інеса Драбышэўская разам з мэрам Мінска Аляксандрам Герасіменкам зоймуцца пошукам патрэбнага памяшкання. Атрымае лячэбная ўстанова і неабходнае абсталяванне. Гэта — адзін з вынікаў сустрэчы з Прэзідэнтам. Другі, і аб ім добра сказаў кіраўнік Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі, — Прэзідэнт, на плячах якога мноства цяжкіх дзяржаўных клопатаў, аддаў сёння сваё сэрца амаль тром мільёнам маленькіх грамадзян Беларусі, дзеля якіх і варта яму штодзённа і цяжка працаваць.

БЕЛІНФАРМ.

РЕПЛИКА

## НЕ ТОРОПИТЕСЬ С «ДЕЖУРНЫМИ» ВЫВОДАМИ

Александр ТИЩЕНКО, сотрудник пресс-службы МВД.

По телефону позвонила женщина и с волнением, даже негодованием сообщила: «Вот уже два часа под окнами дома № 77 по улице Рокоссовского на земле лежит труп мужчины, выбросившегося из окна. Никто не принимает никаких мер, чтобы убрать его. Кругом бегают дети. Милиция приезжала, посмотрела и больше ничего. Почему она бездействует?» Конечно, то, что в наше время сохранились неравнодушные люди — это отрадно. Только вот с «ярлыками» спешить все же не следовало бы. Безусловно, описанная выше картина не могла не вызвать у очевидцев соответствующих эмоций. И поскольку крайнего у нас, как правило, не ищут долго, то понятно, почему сразу возник вопрос: «Чем занимается милиция?» И при этом забывают, что во всяком деле существует свой порядок, действует он и в подобных трагических случаях. А обстояло все так.

Из окна пятого этажа выпал мужчина, страдающий шизофренией (состоял на учете). Его жена в это время находилась в больнице. Сообщение о происшествии в дежурную часть Заводского РОВД поступило в 10.00. Наряд милиции во главе со следователем прибыл на место сразу же. Началось расследование, включающее в себя определенный объем работ. И труп бедняги, поверьте, был под присмотром, а не брошен на произвол судьбы, как показалось. Толпы же зевак поблизости в таких случаях вполне естественны. Что касается продолжительности «зрелища», то тут тоже есть свое объяснение. Во-первых, труп убирают после того, как его опишут, дежурный же судмедэксперт (он один на весь город) по долгу службы в это время находился во Фрунзенском районе, там произошло убийство. И как только была закончена работа в том месте происшествия, дошла очередь и до бедняги на ул.Рокоссовского (к сожалению, здесь у нас тоже очередь). В 14.00 специальная служба забрала труп (замечу, тоже не милиция). Так что давайте не будем, не разобравшись, обвинять друг друга и делать «дежурные» выводы. Каждый занимается своим делом — и вполне профессионально. А то, что времена тяжелые, так это уже другой вопрос.

У МІНГАРВЫКАНКАМЕ

## ЗАЎТРА МЕТРО — 500 РУБЛЁЎ

Тамара МАРКІНА, «ДВ».

Да такога рашэння прыйшлі на ўчарашнім пасяджэнні выканкама. Не прымусіць сябе чакаць і павышэнне кошту праезду ў іншых відах гарадскога пасажырскага транспарту. З 16 студзеня 500 рублёў будзе каштаваць адна паездка ў аўтобусе — тралейбусе — трамваі. «ДВ» пазней раскажа аб прычынах падаражання. Галоўная з іх — наблізіць гарадскі транспарт калі не да прыбыткаў, дык хаця б да пакрыцця затрат на яго эксплуатацыю.

Мінгарвыканкамам быў прыняты яшчэ шэраг рашэнняў па актуальных пытаннях жыцця горада. У іх ліку: новы каэфіцыент росту кошту будаўніцтва жылля, ліміты водаспажывання і скіду сцёкавых вод на 1995 г., прадастаўленне зямельных участкаў і дазвол на будаўніцтва і г.д. Аб найбольш цікавых газета паведаміць у наступных нумарах.

НОВОСТИ КУЛЬТУРЫ

## РОЖДЕСТВЕНСКИЕ СЮРПРИЗЫ

Галина ШАРАЕВА.

В сочельник, накануне Рождества, в столичном Доме литератора состоялась встреча, на которую пришли представители общественности Минска, посольств, аккредитованных в Республике Беларусь.

Посольство Молдовы и Министерство культуры Беларуси организовали концерт детского ансамбля и танца «Адриеш» из молдавского районного города Хикести.

Душа народа, темперамент, характер наиболее ярко проявляются в его танцах, песнях, что и доказал ансамбль юных исполнителей. Детский ансамбль, созданный в 1962 году, много раз был лауреатом различных конкурсов дома и за рубежом: в Румынии, Франции, Испании. В этот зимний праздничный вечер солнечная южная Молдова подарила нам яркий музыкальный спектакль.

Хозяева вечера дарили артистам сувениры, подарки. А после концерта все дети и взрослые зрители прошли в соседний зал и отведали молдавских сладостей, фруктов и напитков, которыми угощали гости. Танцы продолжались, кружились все вместе, дети и взрослые. Почаще бы таких встреч, на которых всех объединяет одно чувство — радость и доброта, сознание высокого духовного родства. А где-то на небе в это время зажглась первая рождественская звезда.

МІНСК. 7--8 СТУДЗЕНЯ

КАЛЯДЫ

Фота М.ЯГОРАВА.

КОНКУРС

# ГОРОД ЗАВТРАШНЕГО ДНЯ — ПОКА В МАКЕТАХ

Михаил ВАЛЬКОВСКИЙ, «ДВ».

**Накануне Нового года Союз архитекторов Беларуси подвел итоги первого республиканского отчетного смотра–конкурса творческих мастерских. В нем было представлено 120 участников. Двадцатку лучших определили рейтинговой оценкой девять различных жюри (лауреатов, ветеранов, творческих мастерских, проектных институтов, студенческое, молодежное жюри и другие). Первые три места все жюри отдали мастерским, которыми руководят Виталий Белянкин, Леонид Левин и Александр Чадович (все они работают в нашем городе). Следующие 17 мест разделили творческие мастерские из разных городов республики. Специальным призом награждена Ирина Заславская–Алерс — руководительница минской студии детской и молодежной архитектуры.**

У белорусских архитекторов творческие удачи и достижения были во все времена, их работы неизменно занимали призовые места на всех международных смотрах. Однако от проекта до его воплощения — огромная дистанция. И проекты-призеры порой ложились на архивные полки. Во многом творческий поиск зодчих сдерживали возможности стройиндустрии, принятые когда-то концепции массовой застройки, ставка на индустриальное домостроение. В свое время была поставлена задача — строить много и дешево, чтобы побыстрее переселить людей из бараков. А посему архитекторам приходилось экономить буквально на всем, чтобы сделать жилье максимально дешевым. Все, что не вписывалось в жесткие нормативы, вело к удорожанию квадратного метра общей площади, объявлялось архитектурными излишествами. С ними боролись, за них наказывали.

И что же получили в итоге? Серые унылые микрорайоны, в которых все здания похожи друг на друга, как близнецы-братья. В домах — малогабаритные и не очень удобные квартиры. И, что самое печальное, так и не решенную государством проблему обеспечения граждан жильем. Потребность в нем, увы, не уменьшается...

Сегодня у людей другие требования к жилью, его комфортности. Эйфория мегаполисов проходит, люди поняли, что жить в огромном здании-улье — противоестественно. И многие хотят построить за свои деньги удобное малоэтажное жилье.

Именно проекты таких домов доминировали на этом смотре-конкурсе. Но были здесь и проекты церквей и гостиниц, банков и ресторанов, магазинов, всех тех зданий, которые создают, формируют облик города.

Председатель Союза архитекторов Беларуси Евгений Николаевич Ковалевский считает, что образование первых творческих мастерских в 1989 году способствовало раскрепощению колоссального творческого потенциала белорусских архитекторов. А работа на конкретного заказчика позволила значительно поднять уровень мастерства. Правда, работать в новых условиях нелегко: конкуренция между архитектурными мастерскими за заказы довольно сильная. Но она же требует от мастера полной отдачи, он не может позволить себе работать плохо, тем более — допустить брак в работе, это скажется на его репутации.

Выступивший во время торжественной церемонии награждения победителей смотра-конкурса министр архитектуры и строительства Республики Беларусь Геннадий Васильевич Новицкий особо отметил возросшую роль архитектуры в новых условиях. Ведь не случайно в названии министерства слово архитектура стоит первым. И если раньше строители довлели над архитекторами, определяли, лимитировали им простор для творческого поиска, то сегодня роли переменились. И уже строители должны бороться на рынке за подряд на строительство, право воплощать проекты, разработанные архитекторами. А роль зодчих — генерировать идеи, творить, создавать проекты по-настоящему современных зданий. Министр отметил высокий уровень всех представленных разработок.

Какие из проектов будут реализованы в столице? Исполняющий обязанности главного архитектора Минска Виктор Дмитриевич Никитин сообщил, что уже согласована проектно-сметная документация, разработанная в мастерской архитектора Воробьева, на строительство церкви в микрорайоне Уручье. А на Логойском тракте по проекту, созданному в творческой мастерской архитектора Школьникова, начато строительство коммерческого банка. Много жилых домов построено в ближнем пригороде. Причем, сложились целые районы малоэтажной застройки, для них найдены очень удачные архитектурно-планировочные решения.

Подведение итогов, награждение победителей конкурса — настоящий праздник для архитекторов. В праздник как-то не принято говорить о проблемах, сложностях, но от них не уйти. Главная — отсутствие помещений (воистину — сапожник без сапог). Большинство творческих мастерских ютится в подвалах, на чердаках, в то время как в проектных институтах — офисы коммерческих фирм. А ведь все архитекторы, организовавшие свои творческие мастерские, много лет работали в этих институтах, в них вложена и частица их труда.

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# ЛЮДИ ГИБНУТ ЗА МЕТАЛЛ...

Анатолий БЕЛОУС, «ДВ».

**Не секрет, своего металла мы практически не добывали, только потребляли. И сегодня так называемый «хлеб промышленности» поступающий к нам уже из–за рубежа, все больше обретает рыночную стоимость.**

**Конечно же, первыми реальную стоимость металла оценили «предприимчивые люди» всех мастей. Они начали тащить все подряд, и не только то, что плохо лежит. Настоящему нашествию подверглись коммунальная сфера и связь, железная дорога и сельское хозяйство. Воруют с кладбищ обелиски, надгробия, — не останавливаются ни перед чем. Словом, хищение металла становится сегодня воистину настоящим бедствием. Об этой проблеме наш корреспондент Анатолий Белоус беседует с начальником отдела БЭП УВД Мингорисполкома, подполковником Н.Н.Абрамовичем.**

**— Николай Николаевич, закончился год, и есть, видимо, уже итоговые цифры, по которым можно судить о размахе нового вида преступности — хищения металла.**

— Да, конечно. Только за одиннадцать месяцев в столице зарегистрировано более 240 краж цветного металла, и это, сами понимаете, только верхушка айсберга. Практически половина преступных посягательств приходится на лифтовые помещения. На промышленных предприятиях отмечено 42 таких случая, на стройках — 47, по другим местам — более 40. За кражу цветных металлов уже привлечено к уголовной ответственности 36 преступных групп, куда входило более 80 человек. Увы, приходится констатировать, что третья часть преступивших здесь закон — подростки. Так, в сентябре прошлого года сотрудники ГОМа Московского РУВД напали на след двух преступных группировок, в состав которых входило 6 несовершеннолетних. Буквально за пару месяцев эти юнцы похитили из машинных отделений лифтов более ста медных катушек. Этим набегам подверглись многие жилые дома почти всех микрорайонов Запада. Сумма ущерба составила более 2 млн. рублей.

А вот и свежий факт. В последней декаде декабря работники ГОМа Фрунзенского РУВД чуть ли не за руку поймали двух «джентльменов удачи». В одном из домов по улице Шаранговича они снимали реле с лифта. Впоследствии удалось установить, что почти все лифты, раскуроченные в микрорайоне «Сухарево», — на их совести. Но самые большие объемы краденого — на государственных предприятиях. К примеру, только на одном МАЗе за прошедшие одиннадцать месяцев выявлено 35 преступлений, связанных с кражей цветных металлов. И в поимке воров нам ощутимо помогает местное подразделение охраны. Двадцать краж зарегистрировано на тракторном заводе, пять — на заводе им.Г.К.Орджоникидзе.

**— С чем напрямую связаны хищения? С объемами производства предприятия? Видом, маркой и сортаментом используемого металла? Какие факторы, на ваш взгляд, все же больше всего способствуют росту этих преступлений?**

— По-моему, акцентировать внимание нужно на сохранности. Вероятность воровства, что ни говорите, а больше там, где украсть легко. Ведь, в принципе, большой революции в сознании людей еще не произошло, и многие по-прежнему рассуждают, что все кругом народное и все кругом мое. На иных предприятиях металл свален в кучу, лежит под открытым небом. А как поставлены контроль и учет? Хорошо, что они есть хотя бы в начале технологического производства и прослеживаются далее по цепочке. Учет же отходов производства и вовсе поставлен на глазок, ведется через пень-колоду. Случается, мы обнаруживаем вывозимый металл под мусором, стружкой, различным хламом. И даже под готовой продукцией. Да и охрана на отдельных предприятиях чисто условная. У иной преклонных лет бабушки-сторожа через проходную не то что десяток килограммов металла могут унести, а и машину готовых изделий вывезут. И никто не заметит. Что и говорить, многих подталкивает к хищению все возрастающая стоимость металла на рынке. По-прежнему существенна разница в ценах, по которым лом цветных металлов скупают госпредприятия и частные лица.

И все ухудшающееся социальное положение людей сбрасывать со счетов нельзя. Как иному работяге при его маленькой зарплате пройти мимо валяющейся болванки — ведь знает, это «живые» деньги! Конечно, честный человек все равно не замарается. Но ведь много и таких, что колеблются. Им трудно устоять.

Ну и последнее, — наказание. На мой взгляд, очень уж низки санкции к преступникам со стороны судов. Многие из воров отделываются условными сроками, а то и символическими штрафами. Безнаказанность ведь тоже способствует росту преступности. А припомните, как часто еще совсем недавно наши средства массовой информации пестрели объявлениями типа: куплю лом меди, латуни, цинка, олова и т.д. Это же провоцирующая реклама! И сегодня ее вдоволь, хотя в последнее время меньше стало. Правда, уже скупают... вторсырье, разъемы, реле, различные радиодетали. Только с августа по декабрь прошлого года по объявлениям в газетах «Вечерний Минск» и «Рекламное приложение» мы выявили в столице 33 пункта скупки цветных металлов. Итог такой: за различные нарушения составлено более 40 протоколов, изъято 11 лицензий, конфисковано почти 4 тонны цветного металла.

**— Поясните, пожалуйста. Лицензию, как я понимаю, выдают под какие–то гарантии и обязательства. Но, выходит, ее легко можно и изъять?**

— Что говорить, у нас многое делается методом проб и ошибок. Но сейчас городскими властями готовится последнее и обстоятельное решение по этой проблеме. В нем будет четко оговорено, что частные лица смогут скупать только бытовой лом. И ни в коем случае не промышленный. Такое право отводится только предприятию «Цветмет» и ПО «Вторчермет». Между тем, работа по лицензии очень ответственна. В таком пункте должно быть специально оборудованное место с весами, указаны расценки, соблюдены противопожарные нормы. И, естественно, решены вопросы сохранности. Должен вестись четкий учет лиц, сдающих лом. Но сколько раз мы сталкиваемся с липовыми паспортными данными! Начинаешь искать концы, а оказывается, или паспорт чужой, или место жительства не подтверждается.

**— Былого распределения, централизованных поставок цветного металла теперь нет. Многие предприятия и организации сами закупают его для производства, занялись этим и коммерческие структуры. И только на границе все тайное становится явным...**

— Да, наша компетенция, в основном, замыкается на столице. Свой круг вопросов и у областных служб, впрочем, как и у республиканских. Четкого взаимодействия всех этих структур, в том числе и с таможенниками, до сих пор пока нет. Это, конечно, все так. И все же далеко не исчерпан наш потенциал в системе столичного УВД. Считаю, здесь предстоит наладить более тесное сотрудничество, усилить контакты с уголовным розыском, участковыми инспекторами, охранной службой. Убежден, что общими усилиями мы справимся с этой проблемой — проблемой хищения металла, которая наносит существенный урон нашей республике.

САДРУЖНАСЦЬ

# КЛОПАТАЎ У ФОНДАЎ ТЫСЯЧЫ. А МІРУ ЧАКАЮЦЬ МІЛЬЁНЫ

Імкненне сакратарыята СНД да расшырэння супрацоўніцтва з грамадскасцю і міратворчымі арганізацыямі дзяржаў знайшло высокую ацэнку Савета заснавальнікаў Міжнароднай асацыяцыі фондаў міру (МАФМ), пасяджэнне якога адбылося 4-5 студзеня ў Мінску.

Прэзідэнт МАФМ — чэмпіён свету па шахматах Анатоль Карпаў, у прыватнасці, адзначыў, што нават самыя важныя рашэнні, прымаюцца ў СНД, не маюць шанцаў на рэалізацыю, калі не будзе шырокай і дзейснай падтрымкі добра інфармаванай грамадскай думкі. А ў прынятай Саветам заснавальнікаў МАФМ рэзалюцыі аб супрацоўніцтве з СНД гаворыцца, што настаў час аб'яднаць намаганні грамадскіх арганізацый, партый, парламентарыяў і дзяржаўных органаў для сумеснай выпрацоўкі трывалай платформы інтэграцыі народаў у якасна новым, сучасным, цывілізаваным супольніцтве. МАФМ таксама прапанаваў па вопыту ААН і іншых міжнародных арганізацый стварыць інстытут кансультатыўных адносін Садружнасці з найбольш прадстаўнічымі няўрадавымі арганізацыямі краін-членаў СНД.

Савет заснавальнікаў МАФМ прыняў Заяву і ў сувязі з падзеямі ў Чачні. «Міжнародная асацыяцыя фондаў міру як міжнародная няўрадавая арганізацыя, створаная фондамі міру і іншымі міратворчымі рухамі грамадскасці краін СНД і Балтыі, не можа заставацца раўнадушнай да трагічных падзей у Чачні. З'яўляючыся, бясспрэчна, унутранай справай Расіі, яны тым не менш выклікаюць трывогу і боль у шырокіх колах міралюбівай грамадскасці нашых краін. Мы заклікаем усе ўцягнутыя ў гэты крывавы канфлікт сілы неадкладна спыніць кровапраліцце, вырашаць усе ўзнікшыя праблемы выключна мірнымі палітычнымі сродкамі, з павагай да правоў чалавека, да агульнапрызнаных норм маралі і гуманнасці», — гаворыцца ў ёй.

Савет заснавальнікаў асацыяцыі таксама даручыў выканкаму МАФМ адшукаць магчымасці для аказання тэрміновай гуманітарнай дапамогі цывільнаму насельніцтву Чачні, якое пацярпела ў выніку баявых дзеянняў.

АЛЯКСАНДР ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛІНФАРМ.

# НАШ РОДНЫ МІНСК

Фота Юрыя ЗАХАРАВА.



ДЫПЛАМАТЫЯ

# РУМЫНІЯ ЗАЦІКАЎЛЕНА Ў СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Румыніі ў Рэспубліцы Беларусь Нікалае Стыня наведаў Міністэрства знешніх эканамічных сувязей Беларусі.

У ходзе сустрэчы супрацоўнікам міністэрства быў прадстаўлены гандлёва-эканамічны саветнік пасольства Румыніі ў Беларусі пан Драганел Цюдор. У мэтах развіцця двухбаковых адносін прапанавана накіраваць у Бухарэст гандлёва-эканамічнага саветніка Беларусі. Акрамя таго, бакі прынялі рашэнне ў І квартале 1995 года стварыць змешаную беларуска-румынскую камісію па гандлёва-эканамічнаму супрацоўніцтву.

Беларускімі спецыялістамі падчас сустрэчы быў прадстаўлены пакет прапаноў аб стварэнні сумесных праектаў і вытворчасцей у галінах харчовай прамысловасці, дрэваапрацоўкі, вырабу абутку, швейнай вытворчасці, абмяркоўвалася таксама магчымасць набыцця запасных частак для самалётаў ЯК-52, што знаходзяцца ў эксплуатацыі Абароннага спартыўна-тэхнічнага таварыства Беларусі. Прадстаўнікі Румыніі выказалі зацікаўленасць і ў набыцці шэрагу тавараў беларускай вытворчасці, у прыватнасці хімічнага валакна, халадзільнікаў, пыласосаў, тэлевізараў, гарбарнай сыравіны і іншых, пры гэтым быў зроблены акцэнт на магчымасць ажыццяўлення бартэрных аперацый.

У мэтах далейшага развіцця гандлёва-эканамічных адносін на сустрэчы абмяркоўвалася пытанне аб арганізацыі ў першай дэкадзе лютага 1995 года візіту на Беларусь дэлегацыі Міністэрства гандлю Румыніі і ў першым квартале гэтага года — візіту беларускай урадавай дэлегацыі на чале з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром у Румынію.

Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.

ДИНАСТИЯ



# «НА РОСТАНЯХ»

Придорожное кафе с таким названием хорошо знакомо всем, кто ездит по трассе Минск — Киев. И сегодня здесь встречают путника вкусными обедами, разнообразными закусками, прохладительными напитками, а заодно — предлагают товары, необходимые в дороге. Нужное, казалось бы, дело. Да вот только из зарегистрированных в последние годы в облпотребсоюзе сорока четырех кооперативных кафе это осталось единственным действующим. Может, потому, что взялись здесь за дело всерьез.

— Когда начинали, — вспоминает глава династии Веремейчиков Эдуард Прохорович, в прошлом председатель одного из хозяйств Жлобинского района, — было очень нелегко. Не знали, чем все обернется через год-другой. Да и сегодня ситуация мало изменилась: определенности никакой.

Тем не менее ни Эдуард Прохорович, ни его жена Татьяна Сидоровна не оставляют начатое. К делу подключились дочь, зять, внуки.

Еще до войны на перекрестке дорог Минск — Киев и Жлобин — Рогачев жили дед и отец Эдуарда Веремейчика, а еще раньше — прадед, который, возможно, тоже держал трактир в этом бойком месте.

Ну, а путникам в кафе нравится. И вкусно, и цены ниже городских. А Веремейчики еще и соседней Лебедевке стараются помочь: водопровод провели, проложили тротуар.

А наградой за все — людское «спасибо».

НА СНИМКЕ: династия Веремейчиков.

Сергей Холодилин, БЕЛИНФОРМ. Фото автора.

# НА ТАКУЮ МАШЫНУ БУДЗЕ ПОПЫТ

У гэтым пераканаНЫ спецыялісты лідскага доследнага завода «Нёман», якія завяршылі выпрабаванні новай пажарнай машыны АЦ-40. Яна цікавая перш за ўсё тым, што павялічаны ёмістасці вадзянога бака — пяць тысяч літраў і пенаўтвараючага — 500 літраў. У цяперашніх вядомых пажарных машын гэтыя параметры адпаведна дзве з палавінай тысячы і 150 літраў.

Серыйны выпуск новай тэхнікі пачнецца ўжо ў бягучым годзе, на першым этапе будзе сабрана сем аўтамабіляў — у асноўным для Беларусі, некалькі пойдуць у Літву.

ТАЦЦЯНА СМІРНОВА, БЕЛІНФАРМ.

МНЕНИЕ

# НА СЛОВАХ И НА ДЕЛЕ

Алексей ЗАКРУЖНЫЙ, кандидат экономических наук, доцент.

Стратегия и тактика управления народным хозяйством у нас всегда строилась якобы на основе объективных экономических законов. Основным объективным экономическим законом социализма было «все более полное удовлетворение материальных и культурных потребностей народа». Но это — не закон, а лозунг, который выдает желаемое за действительное.

У народа действительно основная цель — удовлетворение своих материальных и культурных потребностей. Люди, действительно, хотят иметь жилье, одежду, обувь, продукты питания, хотят, чтобы общественное производство служило их интересам, удовлетворяло их потребности. Но одним из основных экономических показателей работы предприятий у нас было и остается получение прибыли (доходов), а не повышение заработной платы рабочим и служащим.

В большинстве развитых стран «загнивающего и умирающего» капитализма на долю заработной платы рабочих и служащих приходится около 55 процентов валового национального продукта. Другими словами, из каждого доллара, вырученного от продажи произведенной продукции, трудящиеся получают в виде зарплаты 55 центов. У нас же доля заработной платы рабочих и служащих в валовом национальном продукте в 1991 г. составляла лишь 36 процентов (сейчас — еще меньше). Словом, государство делает вид, что платит, а люди делают вид, что работают: мол, как платят, так и работаем. Им говорят: «Как работаете, так и живете». Они отвечают: «Как руководите, так и работаем».

Государственная собственность на средства производства задушила инициативу людей, ликвидировала стимулы к труду, породила безразличие трудящихся к его результатам.

Административно-командн ая система управления была построена на внеэкономическом принуждении. Интересы личности и права человека игнорировались. Между тем человечество еще не придумало более эффективного стимулирования к труду, чем материальное. Когда экономические интересы общества полностью будут совпадать с личными интересами его членов, развитие экономики пойдет несравненно более быстрыми темпами. Следовательно, сейчас неотложная задача — не на словах, а на деле повернуть, наконец, экономику к человеку.

Мировой опыт и практика показывают, что для этого нужны, прежде всего, экономические рычаги и стимулы, а не административные приказы.

Не новая революция, а эволюция и новая жизнь нужны нам. Новому времени нужны новые руководители, талантливые организаторы с новыми подходами к решению назревших проблем. Речь идет о депутатах Верховного Совета республики, о президентской «команде», о членах правительства и других руководителях сверху донизу. Многие из них, безусловно, заслуживают доверия и уважения. На их счету немало добрых дел, в чем мы убедились, наблюдая за работой сессии Верховного Совета. Но... Как ни печально, мнение народа о депутатах меняется не в их пользу. Почему? Потому что достоинством мудрой власти всегда считались не слова, а конкретные дела.

Хотим мы того или нет, но надо признать, что у нас сейчас как бы двоевластие: есть власть старая, командно-бюрократическая и есть новая, демократическая власть. Парадоксально, но у власти довольно пестрый набор в сущности идейных противников, выражающих различные интересы. Они тянут в разные стороны. Между ними идет скрытая и открытая борьба. Одни хотят взять реванш, другие стремятся реформировать старую власть, удержать и укрепить новую. Различные подходы к проблемам экономики и политики, казалось бы, — не помеха, напротив — гарантия от лишних ошибок. Но реформ пока нет, они ведь призваны улучшать жизнь трудящихся, а на деле происходит ее ухудшение. Не видно и различий в подходах к ним. Зато видно, как новые проблемы руководители пытаются решить старыми методами. Но не получается.

Некоторые руководители и бизнесмены из числа компрадоров-спекулянтов, почувствовав, что время их истекает, кинулись строить коттеджи, покупать автомобили и т.п. Немного перефразируя известные слова классика, здесь уместно сказать, что спекулятивный капитал боится отсутствия прибыли, как природа боится пустоты. Но раз имеется достаточная прибыль, капитал становится смелым.

Обеспечьте ему 10 процентов прибыли, и капитал согласен на любое применение: при 20 процентах он становится оживленным, при 50 процентах готов сломать себе шею, при 100 процентах он попирает все человеческие законы, при 3000 процентах нет такого преступления, на которое он не рискнул бы, даже под страхом виселицы. Люди видят это и делают вывод: «новая» номенклатура мало чем отличается от старой.

При вступлении в должность Президент Беларуси А.Лукашенко заявил, что «положение в экономике приблизилось к опасной черте, за которой встает вопрос о выживании нации, необходимо объективно оценить сложившуюся ситуацию и решительно пойти на проведение мер по выводу республики из глубокого кризиса». При этом А.Лукашенко привел следующие факты: национальный доход за 6 месяцев текущего года по сравнению с тем же периодом прошлого года сократился на 32 процента. Внешняя задолженность к началу 1995 года возросла до 2,3 млрд. долларов, внутренняя — не менее, чем в 10 раз. Инвестиции в промышленность за последние 2 года снизились на 47 процентов.

Картина не радужная. И тем не менее, не надо запугивать людей, разжигать страсти в народе (от имени которого, кстати, любят выступать и демократы, и недемократы).

Люди устали от баталий и обещаний, они хотят спокойно работать и по-человечески жить. Они еще верят в перемены к лучшему. Поэтому надо не на словах, а на деле укреплять их веру. Вывести страну из кризиса, выполнить принятую президентскую программу при пустой казне архитрудно. Нужно, действительно, повести бескомпромиссную борьбу с коррупцией, инфляцией и организованной преступностью, приостановить «прихватизацию» и поставить приватизацию под контроль народа, провести индексацию трудовых вкладов населения, укрепить трудовую и исполнительскую дисциплину.

В переходный период, на мой взгляд, должны быть не свободные, спекулятивные цены на товары народного потребления, ведь когда они повышаются — повышается и заработная плата, повышается зарплата — повышаются и цены и т.д. Такому, как видно, не будет конца. И в этот период, по-моему, должны быть стабильные, контролируемые и регулируемые государством цены хотя бы на ограниченный круг товаров первой необходимости. Порой лучше временно «заморозить» цены или зарплату, чем отпускать их гулять на свободу. Мы можем и, стало быть, должны использовать опыт проведения экономических реформ в сельском хозяйстве, например, в Китае, а также опыт Швеции, Финляндии и других стран.

Как известно, первым шагом нашего Президента во внешнеэкономической политике явились переговоры о заключении полномасштабного договора о дружбе, сотрудничестве и взаимопомощи с Россией. Очевидно, что нам нужно искать более тесные и эффективные формы взаимоотношений со странами СНГ. Такой формой сотрудничества может стать экономический союз, который восстановит нарушенные прямые производственно-хозяйственные связи между предприятиями бывших союзных республик, будет координировать денежную, кредитную и бюджетную политику.

Нам не нужен ни «чистый» капитализм, ни «развитый» социализм. Нужна смешанная, регулируемая государством рыночная экономика.

Нужны мир и согласие, демократия и законность, соблюдение прав и свобода человека, — без соблюдения которых невозможно процветание государства.

У КРАІНАХ БАЛТЫІ

# ЛІТВА Ў ЧАКАННІ МАСАВЫХ БАНКРУЦТВАЎ

Бягучы і наступны гады абернуцца для прамысловасці Літвы масавымі банкруцтвамі прадпрыемстваў. Да такога несуцяшальнага вываду прыйшоў вядомы ў рэспубліцы эканаміст Альгірдас Бікулічус.

Як сцвярджае вучоны ў папулярнай газеце «Летувас рытас», вытворчасць загубілі банкі і паслухмяныя ім чыноўнікі. У працэсе акцыяніравання цяперашнія ўласнікі не мелі магчымасці атрымліваць у поўным аб'ёме інфармацыю аб эканамічным стане аб'ектаў. У выніку прыватызацыі прадпрыемствы засталіся без абаротных сродкаў. Іх «з'ела» гіперінфляцыя 1991-1992 гадоў «пры маўклівай згодзе ўрада і з улікам інтарэсаў банкаў».

Кожнаму больш-менш эканамічна граматнаму чалавеку вядома, што вытворчасць без абаротных сродкаў бездапаможная. У краінах з развітой эканомікай абаротны капітал аднаўляецца за кошт падаткаплацельшчыкаў. Урад жа Літвы перадаў напаўмёртвыя прадпрыемствы акцыянерам і нічога не робіць, каб выратаваць іх ад банкруцтва.

Цяпер прыватызаваныя прадпрыемствы бяруць за горла крэдыторы як сапраўдныя грабежнікі. У работнікаў вытворчасці не было альтэрнатывы пры манаполіі айчынных банкаў, акрамя як браць пазыкі пад любыя працэнты на энергію, матэрыялы і зарплату. Гэта атлусцелыя за два гады банкіры, як сцвярджае Альгірдас Бікулічус, канчаткова загубілі літоўскую прамысловасць. Таму ўжо ў бягучым і будучым гадах яе прадпрыемствы ў масавым парадку і пачнуць аб'яўляць аб сваім банкруцтве.

АЛЬГІМАНТАС БРАЗАЙЦІС, БЕЛІНФАРМ.

# СПРАВА — «ТАБАК»

1995-ы год Гродзенская тытунёвая фабрыка «Нёман» сустрэла з затаваранымі гатовай прадукцыяй памяшканнямі.

Асноўная прычына — вялікая запазычанасць прадпрыемству гандлюючых арганізацый рэспублікі, якая складае звыш 20 мільёнаў рублёў. Зараз вырашаецца пытанне аб атрыманні дазволу ад Міністэрства гандлю рэспублікі на рэалізацыю тытунёвых вырабаў у Расіі, гандлёвыя арганізацыі якой гатовы купіць усю выпрацаваную на фабрыцы прадукцыю.

Антось ГАРАДЗЕНСКІ, БелаПАН.

